

Беластоцкая панарама.

Фота Я. Цялушэцкага


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 38 (969) ГОД XIX БЕЛАСТОК 22 ВЕРАСНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.





## Дзедава хата

*Дзедава хата...*
*Была ты сасною,*
*Вечназялёнай*
*Дамоўкай лясною.*

*Вокны і дзверы?*
*Не мела патрэбы!*
*Вокны і дзверы —*
*Між голля ўсё неба.*

*Гнёзды і ў сне ты*
*Стамлёна гайдала,*
*Шчабетунам*
*Калыханкі складала.*

*Ці вечарэла над лесам,*
*Ці днела,*
*Смела,*
*Вясёла птаства*
*Звінела.*

*Снегам цябе*
*Спавівалі завеі,*
*Ты ад завей*
*І ад моху ссівела.*

*І над тваёю*
*Страхой-верхавінай*
*Казкі жылі,*
*Ажывалі быліны.*

*Дзедава хата маўчыць,*
*А бярвенне,*
*Здаецца, варушыць*
*Замлелым карэннем.*

**Генадзь Кляўко**



Сустрэчы з землякамі

## Раскажу сваім унукам...

Магістр Пётр Верамеюк, шчыра кажучы, не вельмі хацеў, каб пра яго пісаць.

— Што ў тым надзвычайнага, — гаварыў ён, — што я выпускнік беларускага ліцэя ў Бельску? Нарадзіўся я і жыў пад самым Бельскам, у Аўгустове, а ў гэтай вёсцы Бельскі беларускі ліцэй усе мы і нашы бацькі лічылі і надалей лічым „сваёй“ школай, такой школай, у якую ідзеш, як да сваякоў у госці. Гэты ж самы ліцэй закончылі абедзве мае сёстры Вера і Надзя, там жа атрымалі атэстаты сталасці дзесяткі іншых маіх аднавяскоўцаў...

Так, гэта праўда. Калі праглядаеш выпускнікоў Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску, вёска Аўгустова паўтараецца там бадай найчасцей.

Мне сёння прыдзецца абмежавацца жыццём аднаго з Верамеюкоў, жыццём, здаецца, павучальным, хаця сам Верамеюк гэтаму рашуча пярэчыць.



— Мой лёс, — гаворыць ён, — зусім звычайны, як сотні іншых. Нарадзіўся я ў 1938 годзе. Якраз закончылася вайна, калі настала пара распачынаць мне навуку ў пачатковай школе. Закончыў яе я без промахаў у роднай вёсцы. Затым паступіў у Бельскі беларускі ліцэй. А пасля вучыўся ў Гданьску і так палюбіў гэты горад, што астануся тут аж да пенсіі.

**Магістр Пётр Верамеюк з'яўляецца намеснікам дырэктара Гданьскага прадпрыемства фасадных** (элевацыйных) **работ.** Калі прыдзецца вам захапляцца цудоўнымі фасадамі старой часткі горада Гданьска, калі будзеце глядзець на стройныя жылыя гмахі ў Аліве, Сопаце, Вжэшчы і на ўсім сярэднім узбярэжжы, дык ведайце, што астатковае вонкавае афармленне гэтых будоўляў выйшла з-пад рук рабочых, якімі кіруе наш зямляк, сын сялян: **Кацярыны і Уладзіміра** — з вёскі Аўгустова пад Бельскам. За ім усяго ледзь 38 гадоў жыцця, аднак за ім таксама вялікі шлях здзяйсненняў у яго асабістым лёсе, аб якім нават не марылі яго бацькі, калі ён паявіўся ў іх сям'і.

— Гаварылі мне, — спыняю яго, — што вы раней шмат свайго часу прысвячалі на грамадскую дзейнасць у гданьскім аддзеле БГКТ.

— Цягнула да сваіх... Але цяпер... жонка, дзеці, сямейныя клопаты... Часам толькі, з нагоды нейкага сходу або ўрачыстай вечарынкі, наведваю беларускі клуб на Длугім таргу ў Гданьску.

— Якія ўспаміны асталіся ў вас з ліцэя?

— Самыя лепшыя. Гэта ж былі гады, калі мы, вясковыя дзеці, адкрывалі для сябе няведаныя раней жыццёвыя перспектывы. А першымі кіраўнікамі па гэтым зачараваным свеце магчымасцей былі настаўнікі, для якіх я захаваў крыштальную ўдзячнасць на ўсё жыццё. Пра незабыўнага Яраслава Васільевіча я буду расказваць яшчэ сваім унукам. Ён лепш ад роднага бацькі ведаў нашы патрэбы і ўмеў у кожнай бя-

Працяг на стар. 4

Можа хтосьці спытаць, чаму такі дзіўны загаловак рэпартажаў. Адказваю. Балада — гэта літаратурны від, у якім пераплятаюцца фантастычныя элементы з элементамі рэальнымі. Сібір мне выдалася краінай, у якой фантастыка зліваецца з рэальнасцю. „Сібірскія балады“ — гэта вынік майго падарожжа, якое я правёў з 17 ліпеня па 2 жніўня 1974 г.

У 1964 г. я быў у Парыжы. Вярнуўшыся, намерваўся напісаць некалькі артыкулаў. Не напісаў аднак ніводнага. Чаму? Не хапіла матэрыялу. Занадта паверыў сваёй памяці. Нічога не запісваў. Засталіся з падарожжа толькі агульныя ўражанні. Гэтага дастаткова, каб напісаць верш, але замала, каб пісаць факталагічны артыкул. Едучы ў Сібір, вырашыў я не рабіць „парыжскай памылкі“. Рашыў, што ўсё, што ўбачу і пачую, сфатаграфую і запішу. Такая „тэхніка“ вельмі нявыгадная. Увесь час трэба мець у руках сшытак, аловак і фотаапарат. Няма аднак іншага спосабу, і я выбраў цяжкі шлях фактографа.

Мая працавітасць у першыя дні сібірскага падарожжа выклікала іранічныя ўсмешкі ў некаторых пісьменнікаў. Хутка аднак усе пераканаліся, што раблю я ўсё не для таго, каб „рысавацца“, але для таго, каб як найбольш зафіксаваць. Куды падзелася іронія? Многія пісьменнікі, якія не рабілі дакладных запісаў, пачалі звяртацца да

Сібірскія балады

## Падрыхтоўка і выезд

мяне з просьбай даць ім розныя інфармацыі аб мясцовасцях, якія мы ўжо наведалі.

Памыляўся б чытач, калі б падумаў, што я ў Сібіры займаўся толькі працай, фатаграфіраваннем, запісам, выступленнямі. Гаспадары Сібіры зрабілі ўсё, каб мы не толькі працавалі, але каб і адпачывалі, цешыліся, пілі, елі, загаралі, танцавалі. З усіх гэтых магчымасцей удзельнікі экскурсіі поўнасцю скарысталі. І за гэта ўсё хочацца таксама падзякаваць Сібіры.

Вернемся аднак да пачатку. У сакавіку 1974 года замежная камісія Саюза польскіх пісьменнікаў паведаміла мне, што я разам з вядомым польскім пісьменнікам Кавальцам еду ў Сібір, у сувязі з арганізацыяй дзён савецкай літаратуры ў Цюменскай вобласці. Пасля, аднак, Кавалец паехаў у сярэдне-азіяцкія савецкія рэспублікі. Такім чынам, у Сібір мусіў я ехаць адзін.

Наступіў дзень 17 ліпеня 1974 г. — дзень майго выезду. А $15^{00}$ гадзіне цягнік Варшава-Масква крануўся з месца. Перад мною Масква і Сібір. У адным купэ едзе са мною прафесар Маскоўскага універсітэта. Аказваецца, што прафесар ведае ўсіх гісторыкаў з Варшаўскага і Лодзінскага універсітэтаў, у тым ліку і маю былую жонку.

І на польскай тэрыторыі, і праехаўшы польска-савецкую граніцу, усё яшчэ размаўляем. Урэшце кладземся спаць. Засынаю адразу, але каля 1 гадзіны ночы прачынаюся. Цягнік пачынае тармазіць і затрымоўваецца. Гэта Мінск. Дзесяткі разоў прыязджаў я ў гэты горад, і ў мяне выпрацавалася ўжо рэакцыя. На гэты раз еду далей. Мінск — гэта толькі палова дарогі ў Маскву. Кранаецца цягнік. Мінск застаецца ззаду. Рэчаіснасць мяшаецца са сном. Раніцай будзем у Маскве.

**Алесь Барскі**

## Праз тыдзень у „Ніве“

**Фестываль дружбы польскай і савецкай моладзі ● Што новага на пасольскім пасту? ● Матэрыял, прысвечаны І з'езду выпускнікоў беларускага ліцэя ў Бельску ● Весткі з Белай Стражы, Новага Ляўкова, Плянты, Чаромхі, Астроўка, Дубічаў Царкоўных, Спічкоў і інш. ● Песня з рэпертуару Анны Янтар** „Najtrudniejszy pierwszy krok”.

 




## АД ІМЯ ПАДЛЯШША...

У палове жніўня ў Кельцах адбыўся першы гарцэрскі фестываль культуры школьнай моладзі. Вельмі прыемна нам адзначыць, што прадстаўнікамі ад імя беластоцкай харугвіі ЗГП былі калектывы з Бельска і Сямяціч, з асяроддзяў, дзе масава чытаюць нашу газету і адкуль нямала паходзіць нашых карэспандэнтаў.

З Бельска на фестываль быў высланы харавы калектыў, які працуе пры Тэхнікуме сельскагаспадарчага рахунказодства пад кіраўніцтвам настаўніка Мікалая Турковіча. Калектыў паказаў сябе ўжо раней, на Цэнтральных дажынках у Беластоку, потым удзельнічаў у „Панараме 30-годдзя" ў Варшаве. Добрую славу прынёс ён беластоцкай гарцэрскай арганізацыі ў Фрамборку. За ўсё гэта, ва ўзнагароду, калектыў быў пасланы на келецкі фестываль.

У Кельцах калектывы прайшлі двухтыднёвую навуку — праслухалі спецыяльныя інструктажы па спеву, пастаноўцы голасу, дыкцыі, вучыліся натуральна весці сябе на сцэне і г.д. Знаёміліся дзеці з калегамі з іншых ваяводстваў, абменьваліся вопытам і навязвалі новыя знаёмствы і сяброўства.

Праграма фестывалю прадугледжвала таксама і знаёмства ўдзельнікаў з цікавымі мясцінамі вакол Кельцаў, і сустрэчы з людзьмі ў паветах, і спартыўныя спаборніцтвы, і рэгіянальныя кірмашы і шмат іншых цікавых і карысных рэчаў. І трэба сказаць, што ўсюды нашы дзеці змаглі паказаць сябе вельмі добра, адрозніваліся дысцыплінаванасцю, падабаліся жыхарам Келеччыны і арганізатарам фестывалю.

Калі беластоцкая група выступала ў адным з паветаў, гледачы не давалі малым артыстам сыйсці са сцэны. Кожны нумар вымушаны былі паўтараць па некалькі разоў. А пасля канцэрта кожны ўдзельнік атрымаў ад мясцовага народнага ўмельца-ганчара дзядзькі Чабана па маленькім сівачку-збаночку на памяць. У час першага рэйду, у якім удзельнічалі прадстаўнікі ўсіх ваяводстваў, а кожны калектыў меў сваю вызначаную трасу, дзеці затрымліваліся ў вёсках, спявалі і гралі людзям, дапамагалі ў палявых работах. Людзі прымалі іх вельмі сардэчна, запрашалі ў садочкі пасядзець, частавалі яблыкамі, некаторыя да слёз былі ўзрушаны іх песнямі. Ды няма што дзівіцца. Рэпертуар калектыву абапіраецца галоўным чынам на фальклор, а любімымі песнямі ўдзельнікаў былі „Каська", „Полька", „Зязюля" і іншыя. Члены харавога калектыву з'яўляюцца адначасова і членамі этнаграфічнага гуртка, які якраз і займаецца збіраннем народных песень. Шкада толькі, што ў рэпертуары калектыву няма яшчэ ніводнай беларускай мясцовай песні. А ёсць іх на Бельшчыне нямала. Спяваюць жа свае мясцовыя песні шматлікія народныя калектывы ў гэтым павеце. Можа, ведаюць іх нават вучні тэхнікума, толькі аб гэтым трэба ў іх запытаць, можа, зацікавіць гэтым. Напэўна, тады нават у Кельцах гэты калектыў выглядаў бы яшчэ больш атракцыйна. А трэба сказаць, што на фестывалі быў нават калектыў „Балалайкі", які спяваў рускія песні. Гэты калектыў арганізаваны пры адным з лодзінскіх ліцэяў і вядзе яго настаўнік рускай мовы. „Балалайкі" вельмі ўсім спадабаліся.

Кіраўнік бельскага харавога калектыву Мікалай Турковіч цяпер працуе над пашырэннем рэпертуару мясцовымі песнямі. Таму хацелася б падказаць, што „Ніва" амаль у кожным нумары друкуе фальклорныя песні, запісаныя на магнетафонную стужку, і падае назву вёскі, дзе песня запісана. Пры адпаведнай музычнай распрацоўцы песні гэтыя маглі б стаць вельмі цікавым сцэнічным матэрыялам.

Найлепш спявае ў калектыве Вераніка Кулікоўская з Кляшчэляў. Гэта аб ёй рэжысёр келецкага фестывалю Тадэуш Александровіч сказаў: „Белы голас", што азначае ў мове спецыялістаў голас вельмі чысты і мілагучны.

Добра спяваюць дзяўчаткі Гражына Альшэўская і Эля Тваркоўская, а таксама і іншыя.

У склад бельскага хору была ўключана група дзяцей з Боцек. Гэта былі наймалодшыя ўдзельнікі фестывалю, і для іх ён быў найбольшай падзеяй.

Вельмі спадабаўся гледачам фестывалю сямяціцкі калектыў „Акарыны", які грае на гліняных народных інструментах. Кіруе ім настаўнік Тадэуш Сідаровіч. Але аб ім — у іншай публікацыі.

(Працяг на стар. 4)



*Выносіцца сцяг Усесаюзнай студэнцкай спартакіяды.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

## Усесаюзная спратакіяда студэнтаў

З 3 па 13 ліпеня 1974 года ў Мінску праходзіла спартакіяда звыш дваццаці каманд інстытутаў фізічнай культуры Савецкага Саюза, прысвечаная 30-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод 3,5 тысяч удзельнікаў спартакіяды былі чэмпіёны і прызёры Алімпійскіх і Сусветных студэнцкіх Універсіяд, члены зборных каманд краіны.

Такіх спаборніцтваў, па маштабу і характару, у Мінску яшчэ не было, хоць горад ужо даўно стаў месцам правядзення вялікіх спартыўных спаборніцтваў. Толькі ў гэтым годзе тут праведзены чэмпіянат свету па біятлону, міжнародныя спаборніцтвы па скачках на батуце і пяціборству, чэмпіянат краіны па мастацкай гімнастыцы і фехтаванню.

Дзесяць дзён на розных спартыўных арэнах Мінска працягвалася заўзятая барацьба за першынства. У гэтыя дні ў мінчан-аматараў, відаць, было цяжкаватае становішча. На самай справе, куды пайсці? У Мінскім цырку баі за золата вялі баксёры, на галубых дарожках Палаца воднага спорту спаборнічалі плыўцы, кіпелі страсці на стадыёне „Дынама", дзе аспрэчвалі першынства лёгкаатлеты, звінелі клінкі ў Доме фізкультуры...

Беларускія студэнты на спартакіядзе першынствавалі ў лёгкай атлетыцы, вольнай і класічнай барацьбе, гімнастыцы, у мужчынскім валейболе, занялі другое месца ў фехтаванні. Гэтага поўнасцю хапіла, каб упэўнена выйсці на першае месца ў агульнакамандным заліку.

Калі падвялі вынікі ўсёй спартакіяды, дык сума балаў у спартыўнай скарбонцы студэнтаў Беларускага інстытута фізічнай культуры склала 1072, на другім месцы — выхаванцы Дзяржаўнага інстытута фізічнай культуры імя Лесгафта (г. Ленінград) — 930 ачкоў, на трэцім — студэнты Дзяржаўнага ордэна Леніна інстытута фізічнай культуры (г. Масква) — 888 ачкоў.

Так закончылася спартакіяда-фестываль спартыўнай моладзі краіны.

**В. Казлоў**



*Беларускі баксёр І. Перац перамог накаўтам.*



*Абсалютны чэмпіён Спартакіяды А. Малееў (БССР).*

## Ці будзе стадыён у Міхалове?

Міхалова з'яўляецца значным гаспадарчым і грамадскім цэнтрам у Беластоцкім павеце. Тут знаходзіцца тэкстыльная фабрыка, ПОМ, малачарня, ГС; дзве сярэднія школы ў сваіх мурах гуртуюць звыш 500 вучняў. Словам, у мястэчку ёсць шмат моладзі, а калі дадаць, што нямала яе таксама і ў навакольных вёсках Пянькі, Новая Воля, Казімерова, Кабылянка, Масціскі, дык стане зразумелым, наколькі неабходны для Міхалова парадачны стадыён.

Справу пабудовы адпаведнага для патрэб гміннага цэнтра спартыўнага аб'екта не адзін раз уздымала моладзь на сходах сваіх арганізацый, на пасяджэннях гміннай рады нарадовай, у павятовых установах. Калі б сабраць усё выказанае і напісанае на гэтую тэму на працягу пасляваенных трыццаці год, дык яно запоўніла б таўшчэзны том. Але што ж, словы — не гравій, ім не вымасціш бегавой дарожкі, і не бетон, што абрамаваў бы спартыўныя аб'екты.

Праўда, гадоў дзесяць таму назад нарадзілася ў Міхалове ініцыятыва пабудаваць басейн. Сабралі крыху сродкаў, мабілізавалі мясцовае грамадства, выбралі месца для будовы. І трэба сказаць, што і міхалоўская моладзь, і дарослыя не пашкадавалі сваёй працы, а ўстановы і прадпрыемствы — сродкаў. Басейн паўстаў ладны, вялікі. Але што ж, калі яго праектанты ўсю справу сапсавалі — рэчка Супрасль нанясла ў басейн столькі мулу, што купацца ў ім можна, бадай, толькі жабам. Ды да таго рэчка ў апошнія гады абмяле-

(Працяг на стар. 4)




**Niedziela 22.IX.** 6.25 Tech. Rol. Mat. 6.55 Mech. rol. 7.20 Kurs Rol. 8.00 Przyp. radz. 8.10 Alarm przeciwpoż. trwa. 8.20 Bieg po zdrowie. 8.30 Now. w domu i zagr. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Anetena. 10.35 Kaukaska branka — film. fab. radz. 11.55 Dziennik. 12.15 Reportaż. 12.50 Wielkopolska tańczy i śpiewa. 13.15 Nie tylko dla pań. 13.40 Piórkiem i węglem. 14.05 Dla dzieci. 15.05 Ex libris. 15.15 Wielka gra. 16.05 Los. Toto — Lot. 16.20 Moja Warszawa — film. 16.35 Refleksje ob. 16.50 Tele — Echo. 17.40 Reportaż. 18.10 Sport. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Święto Trybuny Ludu — koncert. 21.20 Romeo i Julia przy końcu listopada — film fab. czech. 22.45 Sport.

**Poniedziałek 23.IX.** 12.45 Tech. Rol. Mat. 13.25 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Zwierzyniec. 17.25 Echo stad. 17.50 Kur. Biał. 18.05 Modry ptak — pr. balet. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Dziecko w karykaturze. 18.50 Światłoczuły notatnik. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: J Andrzejewski — Popiół i diament. 22.20 Dziennik. 22.35 Pablo Neruda i jego pieśń powszechna. 23.05 Ferty.

**Wtorek 24.IX.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Mech. rol. 9.00 Dla szkół: (kl.I lic.) J. pol. Sofokles: Antygona. 9.30 Siedem romansów Donii Juanity — film fab. NRD. 11.05 Dla szkół: (kl. VII — VIII) Wych. plast. Malarstwo cz. I. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Hist. O Wolną i Niepodległą. 13.45 Tech. Rol. Chem. 14.30 Bot. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.00 Spacerkiem po kinach. 17.30 Studio Tel. Mł. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Na chłopski rozum. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Siedem romansów Donii Juanity — film fab. NRD. 21.00 Interstudio. 21.30 Sport. 21.50 Śpiewa Stenia Kozłowska. 22.20 Dziennik.

**Środa 25.IX.** 6.50 Tech. Rol. Chem. 7.20 Bot. 7.50 Bilardzista — film. fab. USA. 10.00 Dla szkół: (kl. V) Hist. W Egipcie Faraonów. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Fiz. Siła i ładunki elektr. 12.45 Tech. Rol. Fiz. 13.25 Upr. rośl. 16.25 Pr. dnia 16.30 Dziennik. 16.40 Dla mł. widzów. 17.10 Inf., Tow., Prop. 17.25 Los. Mał. Lot. 17.35 Najlepsze z naj. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Pr. wojsk. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Bilardzista — film fab. USA. 22.30 Dziennik. 22.45 Sport.

**Czwartek 26.IX.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII i I lic.) Przysp. obr. Środki obrony kraju. 9.35 Ring wolny — film fab. czech. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) J. pol. Jan Kochanowski. 12.55 Dla szkół: (kl. I — IV lic.) J.pol. Bajki. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Fiz. 15.05 Mat. w szkole. 16.25 Pr. dnia 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran z bratkiem. 17.40 Zwyczaje i obrzędy. 18.10 Kr. Warsz. i Maz. 18.30 Mister eksportu. 19.05 Test — Sł. Ekonom. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: F. Durbridge — Desperaci cz. I. 21.20 Sport. 21.40 Czym żyje świat. 22.10 Jaśnie pan — humoreska. 22.45 Dziennik. 23.00 Inf., Tow., Prop.

**Piątek 27.IX.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Fiz. 9.00 Dla szkół: (kl. V) Geogr. Ziemia. 9.35 Janosik. 11.05 Dla szkół: (kl. II) Nasza stolica. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Hodowla. 16.15 Pr. dnia. 16.20 Red. Szk. zapowiada. 16.30 Dziennik. 16.40 Pora na Telesfora. 17.20 Wych. fiz. receptą na zdrowie. 17.40 Dla młodzieży. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Dialogi hist. 19.10 Przyp., radz. 19.30 Dziennik. 20.20 Janosik. 21.05 Panorama. 21.45 Sport. 21.55 Mój program — przedstawia Wł. Hańcza. 23.05 Dziennik.

**Sobota 28.IX.** 6.30 Tech Rol. Hodowla. 7.00 J. pol. 7.45 Tech. Rol. Mat. 8.20 Upr. rośl. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Ukryte światło — film fab. czech. 10.30 Inf. Wyd. 10.55 Spojrzenie ze szczytów Alp — film dok. wł. 12.30 W starym kinie — Spotkanie z E. Bryllem. 13.30 Powiatowa metropolia — rep. 13.50 Koncert Galowy VI Międzynar. Festiwalu Zesp. Pieśni i Tańca. 14.30 Szare na złote. 14.55 Wakacje z piosenką. 15.45 Dziennik. 15.55 Sobótka. 16.25 Dla młodzieży: 17.35 Mecz p. ręcznej mężczyzn. Polska — Szwecja. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobranoc 19.30 Monitor. 20.20 Gratulacje, ma pan syna — film fab. 21.30 Teraz mamy jako nowy... 22.40 Dziennik. 23.00 Sport. 23.20 Co kto lubi — pr. rozr.




**Piątek 20.IX.** — 17.00 Hokej. Kanada — ZSRR. 19.30 Dla amatorów operetki. 20.25 Sport.
**Sobota 21.IX** — 10.30 Chór im. Piatnickiego. 11.45 Śpiewa A. Iwanow. 13.00 Film fab. 15.00 W świecie zwierząt. 18.00 Spektakl. 19.00 Hokej. Kanada — ZSRR.
**Niedziela 22.IX** — 11.30 Film fab. 13.00 Koncert życzeń. 15.00 Panorama międzynar. 15.30 Filmy anim. 16.00 P. nożna. Dynamo (Moskwa) — Ararat (Erywań). 18.00 Klub filmowy. 19.30 Panorama filmowa.




**Białowieża** Opowieść wigilijna — angl. 24 — 25. Kabaret — USA 26 — 27. Zaczarowane podwórko — pol. 28 — 29.

**Czeremcha** Bez wyraźnych motywów — franc. 24 — 25. Homolkowie na urlopie — czes. 28 — 29.

**Czyże** Białe czaple — bułg. Śmiech w ciemności — angl. 25 — 29.

**Dubicze Cerkiewne** Serafino — włos. Tropiciel śladów — rum. 25 —29.

**Gródek** Nie będę cię kochać — pol. 28 — 29.

**Kleszczele** Alfa, Romeo i Julia — węg. 24—25. Motodrama — pol. 26 — 27. Krajobraz po bitwie — pol. 28 — 29.

**Michałowo** Początek nowego świata — rum. 24 — 25. Nocny cowboj — USA 26 — 27. Morderca samotnych kobiet — NRD 28 — 29.

**Narew** Ten okrutny nikczemny chłopak — pol. Młynarczyk i kotka — NRD 25 — 29.

**Narewka** Co ważne w życiu — czes. Powrót na miejsce wypadku — jugosł. 25 — 29.

**Nurzec** Dziewczyna z diabelskiej przystani — węg. 24 — 25. Troje i las — pol. 26 — 27. Kasztany miłości — włos. 28 — 29.

**Orla** Królewna w oślej skórze — franc. Na niebie i na ziemi — pol. 25 — 29.

**Suchowola** Pójdziesz ponad sadem — pol. Umrzeć z miłości — pol. 25 —29.

B.Z.Graf. zam. 2435 O-3



 

# АПЕКА НАД ДЗЕЦЬМІ

Калі палявыя работы на вёсцы ў разгары, трэба задбаць пра ўсё тое, ад чаго залежыць іх спраўны ход: рамонт машын, забеспячэнне крамаў прадуктамі. Але калі ўсе ў полі заняты працай, дома часта астаюцца дзеці. Маці, якая пакінула дома без апекі дзіця, усё думае, як яно там, чым займаецца і ці не робіць чаго-небудзь некарыснага. Часта чуем, што дзесьці ўспыхнуў пажар, а яго прычынай былі дзеці, гуляўшыя запалкамі. Значыць, апрача добра адрамантаваных машын у разгар палявых работ трэба арганізаваць апеку над дзецьмі.

Праводзяць яе гарцэры і члены маладзёжных арганізацый, ствараючы так званыя „зялёныя дзяцінцы", але найбольш дзяцінцаў арганізуюць ТПД, сельгасгурткі і аддзелы асветы.

У час сёлетняга жніва былі арганізаваны ў ваяводстве 854 вясковыя дзяцінцы, а з гэтага ліку 270 арганізавала ТПД, 80 — аддзелы асветы і аж 504 — сельскагаспадарчыя гурткі. Толькі 30 дзяцінцаў не вяло харчавання. 116 дзяцінцаў будзе арганізавана ў час капання бульбы.

На арганізацыю дзяцінцаў у гэтым годзе адведзена 5 мільёнаў злотых. На гэты фонд складаліся розныя арганізацыі і ўстановы, зацікаўленыя арганізацыяй апекі над вясковымі дзецьмі: сельгасгурткі, ваяводскае і павятовыя ўпраўленні, вясковая спулдзельчасць і ПЗУ.

Значна палепшылася абсталяванне гэтых пляцовак. На гэта ў мінулым годзе выдаткавана 3,8 мільёна злотых, а ў гэтым — 1,8 мільёна злотых.

**(ак)**

# НАВІЦКІЯ



Дарогі спалучаюць вёскі, гарады, вядуць у шырокі свет. Якія гэтыя дарогі, якая іх якасць, на колькі працэнтаў лепшы ў людзей настрой, калі яны едуць або ідуць добрай дарогай, — адказы на гэтыя пытанні напэўна цікавыя. Справамі дарог займаюцца дарожныя аддзелы павятовых упраўленняў. У Белску ўзначальвае гэты аддзел былы выпускнік мясцовага беларускага ліцэя Анатоль Навіцкі. Жыве ён дарожнымі праблемамі, клапоціцца аб рамонце і будове цвёрдых маставых, клапоціцца аб аўтобусным транспарце, які па наладжаных дарогах даязджаў да большасці вёсак Бельшчыны, клапоціцца аб тым, каб на гэтых дарогах не было няшчасных выпадкаў. Работы ў гэтай галіне многа. І Анатоль Навіцкі працуе многа, працуе з сэрцам для дабра людзей. Ён мясцовы чалавек, выхадзец з суседняй вёскі Аўгустова, у якой жывуць і гаспадараць яго бацькі і якім ён, як добры сын, часта дапамагае пры пільнейшых работах.

У дарожным аддзеле, у бухгалтэрыі, працуе жонка Анатоля, Ірэна. Яна таксама выпускніца Бельскага беларускага ліцэя, паходзіць з суседняй вёскі Вулькі. Як і яе муж, не выехала яна далёка, а працуе тут, дзе вучылася, у сваім амаль родным горадзе.

Навіцкія сардэчныя і гасцінныя людзі. У іх многа сяброў, якія наведваюць іх. А калі прыедзе з Варшавы дваюрадны брат, інжынер Юрка Бусловіч і прыдзе дзіцячы лекар — Аня Васілеўская (яны таксама выпускнікі беларускага ліцэя) дык гаспадыня дома пачынае рыхтаваць пачастунак. І тады паплывуць успаміны пра цудоўныя школьныя гады, пра сваіх незабыўных настаўнікаў Яраслава Кастыцэвіча, Ілью Берната, а таксама аб Рыгору Анаціку, Ірэне Лукашэвіч, Сіме Кандрацюк, Софіі Панасюк і іншых, і да глыбокай ночы гучаць песні, якія яны калісьці спявалі. Анатоль і яго жонка Ірэна былі членамі ліцэйнага хору.

Навіцкія з хваляваннем чакаюць з'езду выпускнікоў беларускага ліцэя, якія прыедуць сюды з розных канцоў нашай Айчыны. Анатоль з'яўляецца членам арганізацыйнага камітэта з'езду і з'яўляецца яго сапраўднаю душою. Шмат працуе, бо хоча каб з'езд як найлепш удаўся, каб аставіў ва ўсіх многа, многа ўражанняў, каб ператварыўся ў сямейнае свята, на якое хацелася б ізноў прыехаць.

Пасля з'езду ў Анатоля Навіцкага і далей будзе напружаны час. У кастрычніку пачынаецца навучальны год студэнтаў, а Анатоль з'яўляецца завочным студэнтам другога курса адміністрацыйнага факультэта філіі Варшаўскага універсітэта ў Беластоку.

Верасень заўсёды звязан з пачаткам навучальнага года ў пачатковых і сярэдніх школах. Напэўна ўспамінаюцца цяпер усе верасні і выпускнікам бельскага беларускага ліцэя, пачынаючы ад 1944 года. Ад гэтага часу прайшло 30 вераснёў.

Сёлетні верасень у сям'і Навіцкіх знамянальны не толькі з'ездам, але і тым, што іх сын Яраслаў упершыню пайшоў у школу. У іх хаце многа радасці. Зразумела, што і работы многа, асабліва для Ірэны, якая як маці найбольш займаецца дзецьмі, (ёсць у іх яшчэ 5-гадовая дачка), доглядам парадку і чысціні ў хаце. Прыемна ў іх пабываць, прыемна ў такой хаце жыць.

**Міхась Хмялеўскі**
фота А. Карпюка

Краязнаўчы слоўнік

# Агароднікі

—Яшчэ адны! — усклікне, пэўна, чытач. Так, ёсць яшчэ адна вёсачка і навакольныя хутары з такой назвай у гміне Сідра Сакольскага павету, недзе ў 5—6 км на паўднёвы ўсход ад Сідры. У ёй 27 гаспадарак і звыш 100 жыхароў.

Жывуць тут: **Астроўскі, Гарасім, Гарасюк, Грышко, Жабіцкі, Зязюля, Касцінскі, Піваварчык,** а хутары называюцца: **Андрэева, Баганы, Камінскія, Клапоткі, Курнатоўшчына.** Палеткі: **Жыдоўшчына, Кругліца, Купіна, Лука, Варкі, Палец, Кут, Ядлоўцы, Шырокае, Вузкі Брод, Меляноўшчына, Надаўкі, Памеркі;** рэчка: **Сідранка.**

І сама назва Агароднікі, і звесткі, якія мы пачулі ад старэнькай жыхаркі з гэтай вёскі **Галены Зязюля** (з 1891 года нараджэння), сведчаць пра тое, што гэта мясцовасць была прыгоннай вёскай. Пан Духноўскі памяняў з панам з маёнтку Ельскія свайго прыгоннага мужыка Лапіча **на паляўнічага сабаку** і таму доўгі час у Агародніках была на тым месцы **пустка.** Дзедка Галены Зязюля **Пётр Жабіцкі** расказваў, што калі ён ажаніўся, дык яго жонку, прыгажуню Магдалену пан загадаў прывесці **на першую ноч** з ім. Дзяўчына вельмі плакала і распачала, але панскія слугі сілаю звязалі Магдалену і адвезлі ў панскую спальню. Калі прыгонны селянін ішоў на панскае поле араць, мусіў браць з сабою **пучок дубцоў** або **розгаў,** бо як панскаму **цівуну** выдалася, што ён заараў мала або нядбайна, аратага тут жа расцягвалі на раллі і секлі.

Раней у Агародніках быў **звычай,** што калі панавала ў ваколіцы **пошасць** на людзей або жывіну, дык мужчыны на працягу адной ночы прывозілі з лесу дрэва, абцёсвалі яго і ставілі ля ўезду ў вёску крыж, а жанчыны ў той час бралі куль ільну, церлі яго і трапалі, затым пралі і ткалі кавалак палатна, з яго нарыхтоўвалі **ахвярны пояс** і завязвалі на тым жа крыжы.

Калісьці і часам нават цяпер **ад кашлю** тут лечаць напарам з **бабковага лісця.** Ад **прышчоў** у дзіцяці лячыў каваль, пацягнуўшы тры разы мокрым **квачом** па задніцы, а ад **агню-пяра"** трэба было над дзіцём **перакінуць жар.** Хоць і вельмі рэдка, але ўсё ж агароднічане звяртаюцца да мясцовых **знахароў,** каб **замовілі** боль зубоў або іншую хваробу.

Тутэйшыя паны не хацелі, каб пасля смерці іх хавалі на могілках. Таму пана Аленскага пахавалі **сярод поля** ў яго маёнтку, а іншага пана — **у лесе** на Курнатоўшчыне.

Хоць і не асабліва заможна, але ў дастатку жыве сёння вёска Агароднікі. Найлепшымі гаспадарамі з'яўляюцца тут браты **Геранім і Юзэф Зязюля.** Нягледзячы на тое, што ў іхняй дваццацігектаравай гаспадарцы шмат **„гегі"** (крамяню), яны збіраюць высокія ўраджаі, маюць свае сеўнікі для збожжа і штучных угнаенняў, снопавязалку, малацільны агрэгат, гадуюць многа свіней. **Францішак Жабіцкі** таксама мае камплект сельскагаспадарчых машын, займаецца гадоўляй коней. **Юзэф Камінскі** нядаўна набыў трактар, у яго гаспадарцы ёсць шмат сучасных машын і абсталявання.

З Агароднікаў выйшла шэраг адукаваных людзей: **Ян Баган** — лекар у Беластоку, **Вітальд Зязюля** і **Браніслава Гутэрская** — настаўнікі, шмат моладзі вучыцца ў сярэдніх школах.

На жаль, да гэтага часу ў Агароднікі не завіталі яшчэ электрычнае святло і меліярацыя, але, як абяцаюць павятовыя ўстановы, у 1975 годзе тут павінна заззяць электрычная лямпачка і багны над Сідэркаю таксама будуць асушаны.

**Мікалай Гайдук**

# У Меляшках каровы топяцца

З кім не гаворыш у Меляшках, чуеш скаргу, што каровы топяцца. І што ўвогуле няма дзе іх пасвіць. Вось ён, у скарачэнні, галоўны клопат вялікай і гаспадарнай вёскі Меляшкі ў Беластоцкім павеце: ёсць у вёсцы супольны выган — 220 гектараў — вельмі мокры.

Цяперашні солтыс Юзэф Рошка працуе ўжо другую кадэнцыю, а пісаць да ўлад у справе выгана вёска пачала яшчэ пры старым солтысе. Пісалі — прасілі, каб меліяравалі выган, бо каровы топяцца, выцягваць трэба з балота і толку ніякага няма. „Можна было б многа жывёлы трымаць, але няма дзе пасвіць, — гаворыць солтыс. — У мінулым годзе казалі, што ў гэтым годзе пачнуць меліяраваць, ды ідзе ўжо восень, а ніхто і не думае".

Апошняе лета не паскупіла дажджу, і не адна карова застрагла на меляшкоўскім выгане. „Вы добра скрытыкуйце гэтую справу, — просяць бабы, сустрэтыя на вуліцы, — самі ж мы тут нічога не зробім, трэба нам памагчы".

Сапраўды, памагчы тут трэба. Няхай гадуюць як найбольш сваёй жывёлы, яны любяць працаваць, а ўсім будзе больш малака і мяса. Трэба ясна і адкрыта выясніць меляшкоўцам, калі будуць меліяраваць іх балоты. І слова трэба стрымаць. З размоў з людзьмі відаць, што яны ўсімі сіламі памогуць; грамадскім чынам не адно зрабілі (як хоць бы вуліцу ў вёсцы і тратуар), калі трэба, зробяць больш. Сельскагаспадарчы гурток у Бялявічах, да якога належаць Меляшкі, працуе добра (так солтыс кажа). Гурток таксама зможа ўключыцца ў карысную справу загаспадарвання балота.

Дык чакаюць меляшкоўскія гаспадары і гаспадыні адказу і дапамогі.

Некалькі слоў варта сказаць аб саміх меляшкоўцах. Сардэчныя тут людзі. Поўныя жыццерадаснасці. Загаворыць, і ты ўжо, як у радні, адчуваеш сябе.

Солтыс Юзэф Рошка сядзеў на клуні, крыў дах свайго новага будынка. Старая клуня і хлеў згарэлі два гады таму назад. Хлеў пабудаваў спярша. Цяпер канчаў клуню. Усё сам, сваімі рукамі.

Сядзеў так солтыс-гаспадар і майстар на даху, а я ўнізе. Сонца лілося на яго спіну. Жарышча ў той дзень была нязносная. Сядзіць ён гэтак, як бусел, высока і цярпліва адказвае на пытанні. Малая Валя (у солтыса шасцёра дзяцей), завалокшы ў хату 10-месячнага Васю, прыбегла, прысела ля мяне, чужой, — прытулілася, такая прыемная, свойская. А найстарэйшая Ліля закончыла 8 класаў. Пранясла каля нас поўны кошык грыбоў.

— Ці пойдзе далей вучыцца? — пытаю.

Бацька адказвае з даху:

— Старалася ў гастранамічную школу ў Беластоку, не прынята.

Каб усё ж і пра дасягненні было, пытаю ў солтыса пра найлепшых гаспадароў вёскі.

Ёсць тут добрыя гаспадары, а як жа. Прыклад навочны самога солтыса. Гледзячы на новую хату, клуню і хлеў — усё мураванае, кожны скажа, што ён добры гаспадар, хоць ніхто не ўбачыць на іх, колькі поту тут вылілася, колькі сіл і здароўя тут засталося. Сябе солтыс у ліку добрых гаспадароў аднак не называе. А пра іншых расказвае. Добры гаспадар Анатоль Дарашкевіч, купіў цяпер вясной свой трактар, добры гаспадар Міхал Чэмель, Васіль Кастэнчык, Уладзімір Пятэльскі, Іван Марцінчык. Іншыя, кажа солтыс, сярэднія.

**Вера Леўчук**



*На памяць з меляшкоўскай вуліцы* — *Фота Я. Чэрнякевіч.*

# УСЯКАЯ ПТУШКА СВАЁ ГНЯЗДО БАРОНІЦЬ

(Працяг са стар. 2)

## АД ІМЯ ПАДЛЯШША



*Дзявочая група хору з Тэхнікума рахункаводства.*

Удзельнікі фестывалю вельмі цікава прапагандавалі Беласточчыну на народным кірмашы. Дзеці самі ўпрыгожылі беластоцкі куточак нашымі народнымі вырабамі і пад гукі музыкі і спеву паказалі гледачам, як у нас вырабляюць розныя цуды з саломы, дрэва, воўны, збівалі на вачах гледачоў масла ў вясковых бойках і потым частавалі ўсіх хлебам з маслам і паілі маслянкай. Паспрабаваць беластоцкай маслянкі і масла прыйшлі нават арганізатары фестывалю. Вельмі ім смакавала.

У дзень спорту бельскія хлопцы аказаліся амаль наймацнейшымі сярод сваіх равеснікаў — удзельнікаў фестывалю. Яны занялі другое месца ў перацягванні вяроўкі.

Цяпер калектыў рыхтуецца да пачатку новага культурна-асветнага і гарцэрскага года. Жадаем яму яшчэ лепшых поспехаў у папулярызацыі народных і гарцэрскіх песень і праслаўленні нашага рэгіёну.

**Яніна Чэрнякевіч**

## ДРЭННАЯ ДАРОГА

У Гайнаўскім павеце наогул някепскія дарогі. Прыбывае асфальтных. Пра будову гэтых найбольш сучасных дарог належна клапоціцца Павятовае праўленне мясцовых дарог (ПЗДЛ) у Гайнаўцы. Горш аднак маецца справа з дарогамі, якія належаць раёну эксплуатацыі публічных дарог у Бельску. РЭДП не толькі не спраўляецца з пабудовай асфальтных дарог, але нават з планаванымі рамонтамі дарог, якія былі перададзены ў карыстанне. Рамонты асабліва пасля вясенняга разводдзя з'яўляюцца неабходнасцю. І дрэнна сведчыць такі факт, калі РЭДП у Бельску тэрмінова не рамантуе іх.

Возьмем для прыкладу брукаваную дарогу з Навасад у Нараўку. Брук гэты выбоісты. Праклінаюць яго шафёры ўсіх аўтамашын. Асабліва грузавых, у якіх у час язды па гэтай дарозе лопаюцца рэсоры. А праязджае дарогаю многа машын. У апошнія гады зачасцілі па ёй аўтобусы ПКС у Нараўку, Масева, Сушчу, Семяноўку і ў Беласток. У напрамку Гайнаўкі грузавыя машыны возяць цэглу з керамічнай фабрыкі ў Ляўкове, а таксама тоўстыя бярвенні з нарыхтовачных пунктаў надлясніцтва Броўск. Па гэтай дарозе ўсё больш турыстаў ездзіць у Белавежу, Гайнаўку, Нараўку, Семяноўку.

Язда па выбоістай дарозе ўсім яе карыстальнікам пагражае небяспекай. Аўтамашыны хутка псуюцца. А варта ведаць, што гэты амаль 10-кіламетровы адрэзак дарогі вядзе праз Белавежскую пушчу. Захапляцца прыгажосцю нашай жамчужыны маглі б усе праязджаючыя, а не толькі закаранелыя турысты.

Словам, пара ўжо, каб дарога з Навасад у Нараўку была асфальтнай, пабудаваны ж дагэтуль асфальтныя дарогі ў розных напрамках: у Гайнаўку, адсюль у Белавежу, Кляшчэлі, Палічну, з Навасад у Нарву і далей. (ця)

(Працяг са стар. 2)

## ЦІ БУДЗЕ СТАДЫЁН У МІХАЛОВЕ?

ла, улетку зусім не дае вады ў аб'ект. Кошты будовы былі велізарныя, міхалоўцы ацэньваюць іх на мільён злотых, а карысці з басейна ніякай. Ёсць меркаванні, што вялікі грамадскі ўклад сродкаў і працы можна выратаваць, калі б абсталяваць пры басейне станцыю помпаў і выкласці яго дно бятоннай трылінкай. Трылінка каштавала б каля 100 тысяч злотых, помпы магла б дапамагчы нарыхтаваць тэкстыльная фабрыка. Але ў Міхалове ўсё яшчэ не знайшлося грамадскай сілы, якая б занялася гэтым і выратавала ўтоплены ў багне мільён злотых.

Здавалася б, што, заахвочваючы будову басейна, гмінныя і павятовыя ўстановы планавалі размясціць вакол яго ці ў непасрэднай блізкасці іншыя спартыўныя аб'екты. Але дзе ж там! Месца аказалася абсалютна непрыгодным для стадыёна, і яго мяркуюць будаваць на процілеглай ускраіне мястэчка, у адлегласці звыш паўтара кіламетра ад басейна!.. Чытач сам знойдзе акрэсленне для такога роду рашэння гмінных і павятовых установаў, мы ж абмяжуемся фактамі.

Месца для будучага стадыёна даўно ўжо выбрана пры вуліцы Лясной, там дзе некалі быў славуты міхалоўскі Луг. Не скажам, каб месца было выбрана неадпаведна, хоць і тут варта было б добра ўсё прадумаць, каб не паўтарылася гісторыя з басейнам. Стадыён, як вядома, патрабуе спадарожнічаючых яму аб'ектаў адпачынку: парку, лесу, кафэ. Пры вуліцы Лясной паўстаюць цяпер аднасямейныя домікі, прасціраюцца сялянскія палі. Але няхай сабе. Яшчэ цяпер можна вызначыць межы будучага стадыёна і іншых аб'ектаў, звязаных з ім, і вылучыць гэтую тэрыторыю з-пад будаўніцтва. Ды хто гэтым зоймецца ў Міхалове ці Беластоку? Кажуць, некалькі год таму назад паўстаў у мястэчку грамадскі камітэт пабудовы стадыёна. Але ён адразу пасля свайго нараджэння заснуў летаргічным сном. Ніхто з міхалоўцаў нават не можа прыгадаць ніводнага прозвішча з кіраўніцтва камітэта! Ёсць благая прыказка: „Селянін спіць, а на яго полі збожжа расце". Прыказка крыўдная, складзеная мяшчанскімі абібокамі, і сорам быў бы міхалоўскаму камітэту, каб ёю кіраваўся. Ад яго бяздзейнасці ідэя пабудовы стадыёна толькі траціць. Бо малочны завод у Міхалове будуе цяпер ачышчальнік сцёкаў, вывозіць пры гэтым вялікую колькасць грунту і вывальвае яго без карысці дзе папала, а гэты ж грунт вельмі патрэбны для засыпання Лугу пад будучыя спартыўныя аб'екты! Па ініцыятыве гміннага праўлення Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі і гміннага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў маі гэтага года быў складзены спісак дабравольных удзельнікаў у грамадскім пачыне пры будове стадыёна. Моладзь і дарослыя Міхалова, апрача прадпрыемстваў і ўстаноў, выразілі гатоўнасць выканаць працы вартасцю ў 60 тысяч злотых. Гэты спісак мог бы быць у дзесяць разоў большы, калі б будова стадыёна рушыла з мёртвага пункту.

Наша пытанне: „Ці будзе стадыён у Міхалове?" кіруем не толькі да гмінных арганізацый і ўстаноў, на яго павінны адгукнуцца адпаведныя ўстановы ў павеце і ваяводстве.

**Ігнат Снарскі**

**Толькі скнара і лянівы не выпісвае „Нівы"**



Пачатак на стар. 1

## РАСКАЖУ СВАІМ УНУКАМ

дзе дапамагчы нам. Шкада, што няма яго ўжо сярод жывых...

— Ці часта бываеце ў родных старонках?

— Як толькі час дазваляе, бяру сям'ю ў аўтамабіль ды імчуся ў Аўгустова, каб падыхаць родным паветрам, каб палюбавацца прыгажосцю прасторных палёў. І дзеці свае таксама даволі часта высылаю пад апеку дзядулі і бабулі. Хай прывучаюцца да іхняй гаворкі, хай ведаюць іх звычаі...

**Віктар Рудчык**
фота аўтара

## КОЖЫНСКІЯ КАНТРАСТЫ

Няма цяпер у нас такіх вёсак, у якіх сяляне не будуюцца. Не толькі знікаюць саламяныя стрэхі, але і змяншаецца колькасць драўляных будынкаў. Вось узяць хаця б вёску Кожына (Бельскі павет). Там ёсць ужо такія дамы, якія звонку і ў сярэдзіне маюць выгляд гарадскіх. Там і хлявы, і клуні будуюць цяпер сяляне ў асноўным з цэглы.



У Кожыне на скраю вёскі знаходзіцца сяліба Сцяпана Вышкоўскага. Раней жыў ён у хацінцы, прысеўшай, як грыбок, да зямлі, драўлянай, цеснай, крытай саломай. (глядзі на здымку). Але ён пастанавіў пабудаваць усё новае. Зарабіў грошай, працуючы пры меліярацыі сенажацей, пабудаваў мураваную хату, клуню, хлявы (глядзі здымак) і цяпер мае магчымасць жыць і гаспадарыць па-новаму, значна лепш, чым раней. Зразумела, што мае пакуль што вельмі многа працы; цяжка адначасова будавацца і апрацоўваць гаспадарку.

Тэкст і фота
**М. Хмялеўскага**

**Беларуская літаратура** — Аляксандар Баршчэўскі

## Нашаніўская пара

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XVIII

**Фальклорныя творы.** Багдановіч быў, несумненна, найлепшым знатаком беларускага фальклору сярод усіх пісьменнікаў-нашаніўцаў. Мы ўжо гаварылі аб тым, што фальклорныя беларускія зборнікі адыгралі грамадную ролю ў працэсе азнаямлення Багдановіча з Беларуссю і ў працэсе крышталізацыі нацыянальнай свядомасці паэта. Нельга таксама недаацэньваць значэння фальклору ў працэсе крышталізацыі Багдановіча як беларускага паэта. У сваіх тэарэтычных вывадах Багдановіч прыйшоў да вываду, што беларускія паэты-адраджэнцы павінны карыстацца з узораў сусветнай літаратуры, але таксама неабходна ім абапірацца на народны фальклорны грунт. Для Багдановіча сувязь з беларускім фальклорам была не формай ідэйнага ярлыка, не хлапаманскім параванам, а шчырай патрэбай літаратурнага жыцця, творчых пошукаў і паэтычных здзяйсненняў. У спадчыне Багдановіча розных гадоў знойдзем нямала твораў, паяўленне якіх можам растлумачыць фальклорнымі крыніцамі. Багдановіч дасканала адчуваў не толькі літаратуру фальклору, але і дух народнай паэзіі. Фальклорны цыкл у творчасці Багдановіча, несумненна, адносіцца да нацыянальнай плыні ў яго творчасці. Цяжка было б класіфікаваць, вылучыць усе вершы, якія характарызуюцца сувяззю з народнай творчасцю. Да найбольш тыповых фальклорных твораў паэта трэба залічыць: „Чуеш гул?", „Возера", „Вадзянік", „Змяіны цар", „Старасць", „Лясун", „Срэбныя змеі", „Русалка". Усе гэтыя вершы адносяцца да першай спецыфічнай групы фальклорнай лірыкі паэта. У чым яе спецыфіка? У тым, што вершы гэтай групы ў большай ступені звязаны з беларускай народнай прозай, чым з беларускай народнай песняй. Вершы гэтага цыкла аб'ядноўвае і тое, што ўсе яны сваёй тэматыкай звязаны з фантастычнымі з'явамі: лесавіком, падвеем, змяіным царом, вадзянікам, русалкамі. Гэта значыць, што ўсе яны звязаны з народнымі ўяўленнямі, міфамі аб таямнічых сілах прыроды. Іншая характэрная рыса вершаў заключаецца ў тым, што форма іх не мае нічога супольнага з беларускім фальклорным вершаскладаннем. Народнае вершаскладанне характарызуецца пэўнымі пастаяннымі рысамі, якіх няма ў названых вершах Багдановіча. Да гэтых спецыфічных рыс народнага верша трэба аднесці паўторы, узрушанасць стылю, эмацыянальнасць. Усяго гэтага няма ў вершах Багдановіча аб лесавіках, вадзяніках і русалках. Гэта звычайныя, чыста літаратурныя вершы. З гэтага вынікае, што іх сувязь з беларускім фальклорам — гэта сувязь тэматычная. Вершы гэтыя набліжаюць да народнай творчасці выступаючыя ў іх героі.

Лясуны, вадзянікі, змяіныя цары — гэта для Багдановіча сімвалы і сінонімы таямнічасці ў прыродзе. Так, як першабытны беларус, не ўмеючы выясніць такіх ці іншых прыродных з'яў, звязваў іх з дзейнасцю таямнічых сіл і таямнічых постацей, Багдановіч быў схільны прадстаўляць існаванне гэтых постацей як нешта рэальнае, сапраўды існуючае. Вось кароценькі верш „Лясун":

Сосны, елі, хвоя, хвошчы,
Цёмны мох.
Чую я — лясун касматы
Тут залёг.
Паваліўся ён на хвою,
На кару,
І ўсім калышэць, дзвіжэць
У бару.

Першабытнаму беларусу, калі прабіраўся праз дзікія зараснікі, калі ўслухоўваўся ў таямнічую музыку начных гукаў, шорахаў, шуму, здавалася, што ўсё гэта з'яўляецца вынікам канкрэтнай постаці, асілка, волата, цара лесу, вады або ветру. З гэтага пераканання радзілася пачуццё страху і культу. Такі пункт гледжання Багдановіч і выказваў у вершах названага цыкла. Паслухайма яшчэ адзін верш Багдановіча:

Чуеш гул? — Гэта сумны, маркотны лясун
Пачынае няголасна граць:
Пад рукамі яго, навяваючы сум,
Быццам тысячы крэпка нацягнутых струн,
Тонкаствольныя сосны звіняць.

Справа ясная, у народных легендах аб лясунах, вадзяніках і падвеях выявіліся язычаскія погляды нашых продкаў. Хрысціянская рэлігія бачыла аднаго стваральніка прыроды і аднаго пана натуры — бога. Народ стварыў многіх паноў прыроды. Вось гэтыя язычаскія перакананні нашых продкаў і акрэслілі характар вершаў Багдановіча. Вершы гэтыя былі формай абароны прыроды, абароны яе таямнічасці і паэтычнасці. Рацыяналізм забівае паэзію. Ён робіць яе з'явай халоднай. Ірацыяналізм улівае ў паэзію струю эмоцыі і пачуццёвасці.

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

# ГРАМАДСКІ ДЗЕЯЧ



Аня Шпаковіч - вядомы маладзёжны дзеяч з Белавежы Гайнаўскага павету. Яна пасля заканчэння вучобы ў Бельскім эканамічным тэхнікуме працуе ў Белавежскім даследчым інстытуце лясніцтва. Мясцовая моладзь выбрала Аню Шпаковіч старшынёю мясцовага гуртка ЗСМВ. Калі яна ўзначаліла белавежскі гурток, пачаў ён лічыцца адным з найлепшых у павеце.

Члены яго актыўна ўключаюцца ў грамадскія чыны, у працу са школьнай моладдзю і турыстычна-спартыўную і культурна-асветную дзейнасць.

Сёлета ЗСМВ-оўцы пяць чарговых нядзель працавалі пры пабудове дарогі Белавежа-Пагарэльцы, пасадзілі пяць гектараў лесу, добраўпарадкавалі вуліцы ў Белавежы. Удзельнічалі яны таксама ў акцыі „Кожны колас на вагу золата“, дапамагаючы некаторым адзінокім гаспадарам пры жніве.

Гурток апрацаваў план дзейнасці на асенне-зімовы перыяд. Моладзь намерана прыняць удзел у акцыі „Збіраем плады восені“ і разгарнуць культурна-асветную дзейнасць.

Варта адзначыць, што за паспяховую дзейнасць гурток ЗСМВ у Белавежы заваяваў кубак павятовага праўлення ЗСМВ у Гайнаўцы.

Аня Шпаковіч карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод моладзі за ініцыятыву, арганізатарскія здольнасці, за яе вопыт.

Моладзь Гайнаўшчыны на павятовым злёце ў Нарве выбрала яе сваім дэлегатам на Краёвы злёт перадавікоў працы, навукі і чынаў, які адбыўся ў ліпені гэтага года ў Варшаве.

Аня Шпаковіч выконвае яшчэ функцыю раднай у мясцовай гміне і з'яўляецца членам павятовага праўлення ЗСМВ.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

# ФАЛЬКЛОР

### ХРЫСЦІННАЯ

А на-ша Ма-ры-ся сы-ноч-ка по-вё-ла Во-на сы-ноў на-во дь-ла, Як міе-сэ-цёў на-са-дь-ла, Ой, сэр-дэнь-ко мо е Ой, сэр-дэнь-ко мо - е!

*А наша Марыся сыночка повіла.*
*Вона сыноў наводіла,*
*Як міесэцёў насаділа.*
*Ой, сэрдэнько мое,*
*Ой, сэрдэнько мое.*

*А Васілько молоды по світлоньцы ходіт:*
*— Ой вы, пуойдіетэ, прывіедіетэ,*
*Коло мэнэ посадіетэ,*
*Ой, сэрдэнько мое,*
*Ой, сэрдэнько мое!*

Ад Анны Стахвіюк, год 50, вёска Трасцянка Гайнаўскага павету, запісаў 21 лютага 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

КАЗКА ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

Ад Зайца жыцця не было: ён пачаў п'янстваваць. Звяры баяліся п'янага Зайца. Падпіўшы, ён вытвараў такое, што ў тых толькі шэрсць дыбка ўставала. Кожнаму сустрэчнаму лясному жыхару ён грэзіў „павыбіваць пыл з вушэй“.

Дома Заяц наладжваў дэбошы, пагражаў жонцы, што завядзе другую сям'ю, а зайчанятам будзе прысылаць моркаўку. І ішоў зноў піць.

Справа звычайна канчалася тым, што Зайца хапалі Бабры, якія жылі ля ракі. Яны бралі яго за вушы, акуналі ў ваду і трымалі да таго часу, пакуль ён не працверажаўся. Пасля адзін з Баброў на лістку бярозавай кары складаў пратакол.

— Прозвішча?

— Заяц.

— Імя?

— Касы. Ды чаго пытацца, хіба не ведаеш?

— Так патрабуе інструкцыя, — адказваў Бабёр.

Пасля допыту Касога адпускалі.

Не першы раз трапляў Заяц да Баброў. Не першы раз ён біўся з Вожыкам, чапляўся да Вавёрак, палохаў птушак. Жыццё ў лясным кутку рабілася невыносным.

Нарэшце звяры сабраліся і вырашылі ўжыць нейкія захады.

— Трэба вылечыць, — сказаў Воўк і прапанаваў звадзіць Касога да Кобры: — Кажуць, яна лечыць гіпнозам.

Як Заяц ні ўпіраўся, яго звязалі і прыцягнулі да Кобры. Тая ўставілася на яго праз свае акуляры і пачала пераконваць яго кінуць піць.

— А чаго кідаць? — ухмыляўся Заяц. — Хіба не за свае п'ю?

Кобра зняла акуляры і кажа звярам:

— Нічога не выйдзе. Кожная клетка заечага арганізма насычана алкаголем, а на такіх гіпноз не дзейнічае.

Тады Зайца пацягнулі на палянку, дзе Дрозд чытаў лекцыю „Аб шкодзе алкаголю“. Шмат якія звяры ўважліва праслухалі лекцыю і зарakліся піць. Але Заяц толькі пасмейваўся. Ён ведаў, што Дрозд і сам не дурань выпіць. І працягваў напівацца.

Нарэшце звяры вырашылі ўздзейнічаць на Зайца грамадскім парадкам. Для гэтага сабраліся яны на палянцы ля круглага пня. За старшыню быў Казёл.

— Перад намі, — сказаў ён, — Заяц — парушальнік цішыні і спакою. Хто не ведае, што не так даўно ён сарваў канцэрт мастацкай самадзейнасці, пабіўшы пры гэтым майстра мастацкага слова Папугая і аблаяўшы бруднымі словамі Салаўя? Хто не памятае, як ён напіўся да такога стану, што ў яго з рота паказаўся агеньчык, і, валяючыся пад сухім арэшнікам, ён, Заяц, ледзь не падпаліў лес? Я прапаную: выгнаць Зайца з лесу!




Пасля гэтага слова далі Зайцу. Выгляд у яго быў такі, што звяры пашкадавалі яго. Заяц маўчаў і толькі лыпаў вачыма. Потым звяры заўважылі і заечыя слёзы.

— Браточкі, я больш ніколі, ніколі...

Старшыня Казёл раптам засоп носам і пачаў глядзець убок. Недзе на ёлцы ціха ўсхліпвала Вавёрка. Пачуліся асобныя выкрыкі:

— Ды чаго там прысталі, ён жа сказаў, што не будзе.

— З кім гэта не здараецца?

— Хай кіне ў яго шышкай той, хто ні разу сам не напіваўся, — сказала Ліса.

Паколькі шышкі ў Зайца не ляцелі, Казёл запытаўся ў яго:

— Ты абяцаеш не піць?

Заяц кіўнуў галавой.

Суслік падняў лапу і хацеў сказаць, што не першы раз Заяц абяцае не п'янстваваць. Але Верабей, якому Заяц абяцаў даць пуху на гняздо, ускочыў Сусліку на лапу і пачаў пералічваць Зайцавы заслугі, што ён некалі быў добрым сем'янінам, атрымліваў прызы па бегу на кароткія дыстанцыі і г.д.

Аднак з Вераб'ём мала хто згадзіўся, а суровы Крот рэзка сказаў: „Касому даўно пара даць па зубах“.

У выніку сход вырашыў абвясціць Зайцу суровую вымову з апошнім папярэджаннем.

На некаторы час Заяц сапраўды пацішэў, акуратна хадзіў на працу і вечарамі не сядзеў за бутэлькай, а гуляў з Лісам у шашкі.

І каб пастанова сходу строга выконвалася і далей, то, магчыма, Заяц і зусім адвык бы піць, але лясны куток не без „мяккасардэчных“. Першай пачала парушаць пастанову сходу Сарока-буфетчыца. Вось як гэта выглядала. Прыйшоў Заяц да Сарокі ды і кажа:

— Сто пяцьдзесят і капусты ліст на закуску!

— Гарэлка не прадаецца, — адказала Сарока-буфетчыца.

— Дык мне ж не для выпіўкі, а з лячэбнымі мэтамі: я застуджаны.

— Тады іншая справа. Вам „Зверабою“? — запыталася яна, аглядаючыся па баках.

— Ды не, — сказаў Заяц, — чыстай...

Так і пайшло. Неяк разам з Зайцам выпіў адзін, потым другі... Так непрыкметна Заяц ізноў пачаў прыкладвацца да чаркі, і ўсё пайшло паранейшаму. Дэбошы, скандалы. Аднойчы Заяц яшчэ раз ледзь не кінуў піць. Гэта здарылася тады, калі ён прыняў Ваўка за авечку і даў яму поўху. Апамятаўся ён ужо ў воўчых зубах. Заяц зразумеў, што на гэты раз не здабраваць яму, і ў думках даў сабе зарок, калі „пранясе“, то больш ніколі не прыгубіць чаркі. Толькі ён хацеў аб гэтым сказаць Ваўку, як падышла група звяроў, сярод якіх быў і Асёл. Многія з іх, калі Воўк расказаў, у чым справа, патрабавалі больш не цырымоніцца з Зайцам і на пэўны час пасадзіць яго ў яму ці зусім выгнаць з лесу. Але Асёл выручыў Зайца, **заявіўшы:**

— Трэба выхоўваць, а не караць...

Заяц з падзякай паглядзеў на Асла і падумаў: „Як добра, што ёсць яшчэ на свеце такія Аслы-лібералы. Сёння ж абавязкова вып'ю за яго здароўе!“

**Анатоль Дзялендзік**




## ШТО ТАКОЕ КАХАННЕ

Было, кажуць, калісь у суседа нашага Аўхіма шэсць дачок, і ўсе прыгажуні. Зразумела, што такое хаты хлапцы ніколі стараною не абміналі. Заходзілі вось так сабе проста пажартаваць і заходзілі з паважнымі, як гавораць, намерамі.

І вось стаў калісь перад Аўхімам кавалер адзін, і Настку, сярэднюю з дачок, за жонку яму аддаць з усяго сэрца просіць. А люблю, а кахаю, а гаспадыня мне ў хаце патрэбная і ўсялякае такое гародзіць.

— Добра, — Аўхім яму на тое. — Чаму ж і не аддаць. Толькі ведаеш што, сыну, — кажа. — Пакажу я табе здалёк дачушак сваіх. А ты, каторая твая, адгадай. Адганеш — аддам. Не адгадаеш, на мяне не крыўдуйся.

А тады якраз восень была, пара капання. Ідуць яны ў поле. Давёў стары юнака да мяжы.

— Вось цяпер, — гаворыць, — выбірай, прыглядайся.

А на полі тым дзяўчаткі, усе шэсць, з самай раніцы бульбу пільненька выбіраюць. Усе да зямлі нахіленыя, кожная сваёю баразёнкаю памалу сунецца. Вылупіў хлапец вочы і зроку адарваць не можа.

Шэсць азадачкаў дзявочых, гладзенькіх, угору тырчмя-тырчаць, у рытме працы далікатна калышуцца. Шасцьмю спаднічкамі вецер-свавольнік хітра гуляе. То ўздыме ўверх крыху, то ізноў апусціць, а то ў бокі гойдаць пачне, бержкі з кашулькамі разам як струны перабіраюцца. А з-пад спаднічак тых шэсць пар ножак, загарэлых, стройненькіх, калонамі выстраіліся. Адна за другою, адна за другою, быццам у танцы, у след за кошыкамі пасоўваюцца. Знізу ўверх, калі вокам вядзеш, кожная пара — дзве мяжы пры дарозе, здаецца. Пры дарозе, што ў неба..

Аслупеў наш хлапец, барада ўніз апала. Твар пунсовы, пот на лобе гарохам. Шапку зняў, у руках мне-цярэбіць. Язык да нёба прысох. Толькі вочы вялікія, вялікія, пакруглеўшыя, маслам, здаецца, налітыя, туды-сюды з боку ў бок водзяць.

А Аўхім побач стаіць, люльку курыць, у вусы ўсміхаецца. Урэшце штурхнуў пад робры.

— А вы што? — кавалер быццам з печкі зваліўся.

— Як та што? — выбірай.

Той зірнуў раз яшчэ, і другі ды ўзмаліўся.

— Дзядзечка, ой-ёй-ёй, каб хутчэй, каб хутчэй, хоць якую давайце.

— Гэтак не, — яму дзядзька, — маёй згоды няма. Пра каханне ты плёў. Табе дур у галаве, не даспеў ты яшчэ, ты зялёны.

Ашалеў наш хлапец, у ногі паў, увесь дрыжыць.

— Вы хоць, дзядзечка, тую, што пад узгоркам, у канцы, — тыча пальцам, вужакаю ўецца.

Павярнуўся Аўхім, люльку дастаў з роту — глядзіць.

— А каб цьфу на цябе, зглузду з'ехаў, беляны ці чаго ты аб'еўся? Вось чаго захацеў, дурань, ёлуп сляпы — там жа ж цёлка суседа пасецца.

**Ларс**



*Нарва ў ваколіцах Страблі Бельскага павету.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

# ТРЫБУНА чытачоў




## ЦІКАВА, ЧАМУ?

Цікава
чаму вясной жыццё ажывае
усё весялее
шчаслівее
цвіце
Цікава
чаму і вясной смерць прыходзіць
прыемна ж вясной жыццё плыве
Цікава
чаму мы аб сваёй будучыні
нічога не знаем
жыццё нас усё за нос водзіць
Цікава
чаму гэта такая таямніца
у такой глыбокай кішэні ляжыць
а кожны ж хоча лёс свой пазнаць
Цікава
чаму цукар салодкі
а перац горкі
чаму адзін чалавек вясёлы
а другі сумны
усім жа добра калі вясёла
Цікава
чаму чалавек аднаму брат
другому вораг
аднаго любіць
другога як звер шчуе
Цікава
чаму не ўсе людзі разам
разам усім жа было б лепш
Цікава
чаму сонца ўсім роўна свеціць
ўсіх зямля на спіне носіць
усіх мароз аднолькава шчыпае
усім паветра аднолькава хапае
Цікава
чаму іншым гэта мала
чаго ім патрэба
што яны хочуць
Цікава
чаму свет такі разнастайны
вясёлы і сумны
салодкі і горкі
адкрыты і таямнічы
шчаслівы і жалабны

**Юрка Панасюк**

## ЯКІМ

Быў год 1939.

У жніўні Якіму споўнілася дзевятнаццаць год. У верасні пайшоў на фронт, разам з братам Дуні. Дунін брат прыслаў пісьмо — пытаўся ў ім ён і Якім, ці ўсе жывыя, ці што не згарэла.

Усё ў попеле, хлопцы. Няма куды вам варочацца.

Пайшлі на Берлін...

Дзе яны загінулі? Можа, палі на мурах Берліна, можа, ў Варшаве?.. Ці міна ім забрала жыццё, ці куля?.. А можа, дачакалі канца вайны, а калі ішлі дамоў, бандыты іх забілі?

А можа жывуць?

Не. Мінула амаль трыццаць год ад вайны. Далі б знак, прыехалі б. Няма надзеі, а яшчэ іх ждуць. А ўсё ўжо новае.

## КОШКА

У цёткі Мані — кошка ёсць. І якая кошка! Праўда, не вельмі прыгожая, але якая разумная! Але адна бяда — штогод прыводзіць па дванаццаць кацянят! Такія прыгожанькія, пухаценькія. Але куды іх дзець?

Прыехаў Коля ў госці. Парай, міленькі. Можа патапіць?

Вочкі кошкі паглядзелі неяк дзіўна. Назаўтра рана людзі бачылі, як рыжая, лабастая кошка ішла левым бокам вуліцы, а за ёю радочкам дрыпала дванаццаць пухатых клубочкаў.

Кошка загневалася!

У цёткі Мані — кошкі ўжо няма.

**Міра Лукша**

## Ці так павінна быць?

Прыпынак ПКС у Гайнаўцы знаходзіцца ў добрым месцы, а ўсё ж такі не ўсё тут так, як павінна быць. Каля лавак няма кошаў для смецця. І ўвесь прыпынак засмечаны, брудны. Дах у пачакальні дзіравы, і нельга пад ім схавацца ад дажджу. Тратуар каля прыпынку сапсаваны, павырываны пліткі, засталіся толькі ямкі.

**Ружа**

## Людская лёгкадумнасць

Кожны з маладых хлопцаў думае аб жаніцьбе. Аднак не ўсе ў такіх выпадках паступаюць разважна. Жаніцьба ж — справа сур'ёзная, але як жа часта мае яна сумны эпілог!

В. Ш. было 23 гады, калі ажаніўся з дзяўчынай з суседняй вёскі. Яго жонка Р. была малодшая на два гады. Многія гаварылі, што гэта не ёй муж. Надта ж часта заглядае ён у кілішак. Аднак Р. не паслухала ні бацькоў, ні людзей. Гаварыла, што яна зменіць каханаму характар.

Пажаніліся ў 1970 годзе. Праз год дачакаліся дачушкі. В. стаў бацькам. Змяніліся жыццёвыя ўмовы. Толькі характар у В. не змяніўся. Далей піў гарэлку. Мала калі аддаваў жонцы зарплату. Не дбаў ні пра яе, ні пра дзіця. Калі быў п'яны, шукаў прычын для спрэчак. Цяжка стала маладой маці. Р. з дзіцём вяртаецца да сваіх бацькоў. Аднак думка, што муж зменіцца не пакідае яе. Пасля нядоўгай разлукі прыходзіць В. і просіць прабачэння. Абяцае, што не будзе ўжо піць. І зноў пачалі жыць супольна. Нейкі час у сямейным жыцці Р. і В. было ціха. Аднак не стрымаў слова муж. Піў далей. Здзекваўся над сям'ёй. За п'янства на рабоце быў сурова пакараны, нічога не памагло. У справу ўвайшла міліцыя. Пачалося следства. І цяпер справа ў судзе за здзекі над сям'ёй. Думаю, што ўсё гэта павінна стаць перасцярогай для іншых.

Вось што нарабіла людская лёгкадумнасць.

**Кактус**

## „Ніва" ў Бельскім павеце

Найбольш „Нівы" ў Бельскім павеце выпісваюць на пошце ў Пасынках — 200 экз., у Орлі — 160 экз. у Храбалах — 150 экз., у Грыгораўцах — 130 экз.

Ёсць у мяне просьба да дырэктара паштовага ўпраўлення ў Бельску, да начальнікаў мясцовых поштаў і да ўсіх пісьманосцаў, каб больш прапагандавалі „Ніву" сярод беларускага насельніцтва павету. Ёсць тут яшчэ вялікія магчымасці павышэння падпіскі на „Ніву".

**Э. Вайсковіч**

## Таксі ў Бельску

У Бельску Падляшскім ёсць каля 50 таксі. Стаяць яны недалёка ад станцыі. Дык калі хто не паспее на поезд ці аўтобус, можа заехаць дамоў таксоўкай.

**Васіль Асеннік**

## Гадоўля свіней

Сельскагаспадарчы гурток у Хмялеўшчыне (Сакольскі павет) гаспадарыць на больш чым 200 гектарах зямлі дзяржаўнага фонду. Мае 10 трактараў і ўсе іншыя машыны, патрэбныя ў гаспадарцы. Мае 2 камбайны — „Вістуля" і „Бізон". З гектара збірае чатырох асноўных збожжавых — жыта, аўса, ячменю і пшаніцы больш як 20 цэнтнераў.

Сельгасгурток у Хмялеўшчыне распачаў у гэтым годзе вялікую гадоўлю свіней. Купілі 240 штук парасят. А паколькі не маюць сваіх вялікіх будынкаў, дык нанялі хлявы і клуню ва ўдавы Ольгі Герасімовіч і там паставілі парасят. Адна бяда, што ў хляве вада. Будынкі не надта прыдатныя для такой гадоўлі, бо няма магчымасці кожны дзень выкідаць гной і падсцілаць нанава. Таму парасяты бываюць не беленькія, а чорна-зялёненькія. Кормяць іх мяшанкай „Т", а акруговая малочная спулдзельня ў Саколцы давозіць сыроватку. Былі аднак выпадкі, што спулдзельня не прывезла сыроваткі і тады давалі парасятам піць ваду, а ад гэтага ў іх бывае панос. Нягледзячы аднак на ўсялякія цяжкасці, свінні растуць, і ў канцы года сельгасгурток дасць дзяржаве некалькі дзесяткаў тон мяса.

**Т.К.**

## Аднаўленне дарог

З кожным годам у Нараўкаўскай гміне рамантуюць старыя і будуюць новыя дарогі. У гэтым годзе будзе закончана будова новых мастоў праз раку Нараўку і Баброўку, а таксама адрэзка дарогі з вёскі Новае Ляўкова да Падляўкова.

У бліжэйшыя гады пачнецца рамонт дарог на адрэзках: Старое Ляўкова — Сушча, Нараўка — Масева, Міхнаўка — Бандары, Ляшукі — Кардон, а таксама Семяноўка — Баб'я Гара. У суме на працягу гадоў 1975-76 будзе адрамантавана і пабудавана каля дваццаці кіламетраў дарог. Прадбачваецца таксама перабудаваць тры крутыя павароты ў пасёлку Нараўка.

(ця)

**ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „НІВУ"!**

## Белавежская бібліятэка

Жыхары Белавежы, нягледзячы на пастаянны рост папулярнасці тэлебачання, часта працягваюць руку па кніжку. Гмінная бібліятэка прапануе ім 6.236 загалоўкаў, у тым ліку — 142 кніжкі на рускай і 324 на беларускай мовах. У мінулым годзе 591 чытач пазычыў кніжкі 13.063 разоў. Кожны пяты белавежац з'яўляецца пастаянным чытачом. Белавежская бібліятэка, якой кіруюць Люцына Міклашэвіч і Гражына Чарноцкая, мае 4 аддзяленні — у Пагарэльцах, Тэрэмісках, Будах і Падалянах. Штогод запас кніжак павялічваецца на 400-450 выдавецкіх навінак.

Сярод чытачоў пераважае моладзь, хаця і дарослых многа. Найбольшай папулярнасцю карыстаюцца кніжкі прыгодніцкія, гістарычныя, дэтэктыўныя раманы. Расце зацікаўленне навукова-папулярнымі кніжкамі. Найбольш чытаюць з дарослых — Юры Гляд, Васіль Бонда, з моладзі — Малгажата Грыголец, Янка Байко, Багдан Кнап. У белавежскай бібліятэцы пазычалі таксама кніжкі многія турысты і дзеці з летніх лагераў.

Ды не адным пазычаннем кніжак абмяжоўваецца дзейнасць бібліятэкі. Вядзе яна розныя заняткі са школьнікамі. Арганізуе сумеснае чытанне дзіцячай літаратуры, пасля якога вучні малююць, апавядаюць. Дэманструюцца каляровыя дзіцячыя фільмы. Ідуць часта чытальніцкія конкурсы з узнагародамі.

Пры бібліятэцы існуе чытальня, у якой больш 20 газет і часопісаў.

**Пётр Байко**

Фота В. Мінкевіча



*Луцыя Міклашэвіч (злева), чытач Юрка Янюк, Гражына Чарноцкая.*

## ВІКТАР ХОМЧЫК З ПАЧАПКА

Віктар Хомчык з Пачапка з'яўляецца майстрам сельскагаспадарчай прадукцыі ў гміне Шудзялава. Ён гаспадарыць на 14-гектаравай гаспадарцы. Дае 200 кг мінеральных угнаенняў на гектар. Намалочвае па 30 цэнтнераў чатырох асобных збожжавых, а бульбы накопвае 250 цэнтнераў з гектара. Здае дзяржаве з аднаго гектара 200 кг свініны і 120 кг ялавічыны.

За добрую працу быў узнагароджаны значком „Заслужаны для Беласточчыны". Мае ўласны трактар „Урсус-330" і ўсе іншыя машыны. Сваёй снопавязалкай у гэтым годзе многа каму памагаў жаць жыта і авёс. Ад некаторых нават не браў грошай.

Віктар падсявае многа сырадэлі ў жыта, пасе на ёй каровы, а частку кладзе ў сілас. Ён вельмі многа сіласуе, нічога зялёнага ў яго не змарнуецца. Увесь бульбянік таксама кладзе ў сілас. Усім суседзям і знаёмым кажа ён: калі няма квашанкі, то няма і малака. А яго каровы так прызвычаіліся да квашанкі, што калі яе не атрымаюць, дык равуць, як па цяляці.

**Т. К.**

**Ад рэдакцыі.** Вельмі шкадуем, што прысланы здымак Віктара Хомчыка, зроблены Мікалаем Гасперчыкам, не можа быць выкарыстаны ў „Ніве" — тэхнічна ён не падыходзіць. Пры нагодзе завітае да добрага гаспадара з Пачапка наш фотарэпарцёр.

## „ВАКАНТЫ" З ДУБІН

Вядомым ужо стаў аркестр з Дубін у Гайнаўскім павеце. Называецца „Ваканты", а складаецца з трох маладых хлапцоў, якія іграюць на гітары, гармоніку і барабане. „Ваканты" маюць добрую марку, і цяжка іх згадзіць, каб прыехалі паіграць.

**Васіль Асеннік**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

■ На шашы каля Бельска Падляшскага стукнуліся два матацыклы. Траіх параненых людзей адвезлі ў бальніцу.

■ На дарозе Бельск — Маліннікі, каля вёскі Пашкоўшчына, матацыкліст наехаў на стаячых збоку двух мужчын. Матацыкліст быў забіты на месцы, а яго пасажыр і тыя два мужчыны, цяжка параненыя, былі адвезены ў бальніцу.

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ДА СПРАЎ ВЁСКІ КУЗАВЫ

**Адказвае**

**Urząd Gminy w Czeremsze powiat hajnowski.**

W odpowiedzi na Wasze pismo z dnia 10 sierpnia 1974 roku Naczelnik Gminy w Czeremsze wyjaśnia co następuje:

Postulaty mieszkańców wsi Kuzawy są słuszne i uzasadnione. Sytuacja taka istnieje faktycznie. Sprawa ta rówież znana jest tut. władzy. Rozwiązanie jednak tych problemów w chwili obecnej nie jest sprawą łatwą. Naczelnik Gminy kilkakrotnie zwracał się do Spółdzielni Budowlanej „Czyn" o zainstalowanie punktów świetlnych we wsi Kuzawie, lecz zainstalowanie ich może jedynie nastąpić w IV kwartale br. lub I kwartale 1975 r. Zwrócono się również do Zakładu Energetycznego i po dzień dzisiejszy nie ma odpowiedzi. Problem zainstalowania punktów świetlnych występuje na terenie tut. gminy nie tylko we wsi Kuzawie. Sprawa ta jednak zostanie załatwiona pozytywnie już w najbliższym czasie. W rozmowie telefonicznej Zakład Energetyczny zapewnił, że punkty świetlne zostaną zainstalowane.

Jeżeli chodzi o remont drogi, to remont takowy nie jest ujęty w planie na rok 1974. Zaniedbania na tym odcinku w gminie Czeremcha są ogromne. Są o wiele gorsze odcinki drogi, które należy remontować w pierwszej kolejności. W chwili obecnej cała uwaga skoncentrowana jest na budowie drogi os. Czeremcha — Zubacze długości 10 km i renowację ul. Kolejowej w os. Czeremsze o dł. ok. 800 m. Koszt budowy wspomnianych obiektów wynosi ponad dwa miliony złotych. Inwestycje te prowadzone są również sposobem czynowym i środki na poparcie czynów są tam inwestowane. Droga os. Czeremcha — Zubacze musi być skończona w pierwszej kolejności ze względu na dowóz dzieci do szkoły zbiorczej. Kontynuacja tak poważnych przedsięwzięć nie oznacza odwrócenia uwagi od innych równie ważnych spraw. Ulica w Kuzawie potrzebuje niedużego remontu aby przywrócić ją do normalnego korzystania. Remont takowy zostanie przeprowadzony w 1975 roku po rozładowaniu robót na wspomnianych wcześniej obiektach. Końcowo stwierdza się, że sprawy te były kilkakrotnie dyskutowane na zebraniach wiejskich wsi Kuzawy i mieszkańcy są zapoznani z tymi faktami.

Do wiadomości
1. Sołtysowi Kuzawy
Ob. Kaliszewocz Sergiusz

**Naczelnik Gminy**
**mgr inż. Sergiusz Sac**

NIWA 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch". Indeks 36911.

З ТАГО СВЕТУ



*— Зноў, чэрці рагатыя, з п'яніц гарэлку жанеце?!*

## САМАЯ ДАРАГАЯ

Маленькая зашмальцаваная шэрая кніжачка ляжала на газетным століку сярод кніжных паліц і насмешліва пазірала на тоўстыя, рознакаляровыя тамы мастацкай літаратуры.

— Гэй вы, мастацкія? Як жывецца? — піскліым галаском пагардліва пыталася яна. — Усё стаіце?

— Усё стаім, — неахвотна адгукваліся кнігі на паліцах.

— І ўсё глытаеце пыл? — весела смяялася кніжачка. — Ну, ну, глытайце сабе на здароўе. Шкада мне вас. Салідныя вы, мудрыя, усё нібыта ведаеце, а што вы каштуеце? Затое зірніце на мяне: якая маленькая, якая тоненькая, а гаспадар са мной ніколі не расстаецца, каля самага сэрца трымае, усюды з сабой носіць... Дарагая яму я! Самая дарагая сярод вас...

Мудрыя кнігі маўчалі. Гэтую фанабэрыстую балбатушку яны ведалі даўно.

— Я вось і зараз пайду з гаспадаром у адно месца, — урачыста заявіла кніжачка і ў той жа момант хуценька знікла ў вялікай кішэні.

Праз гадзіну яна вярнулася дахаты. Але што гэта? Здзіўленыя кнігі не пазналі яе: растрэпаная, зусім шэрая, нібы з яе выціснулі апошнія сокі, кніжачка ціхенька ляжала на ранейшым месцы. Падышла гаспадыня, узяла яе ў рукі, сумна пагартала старонкі, з перакрэсленымі лічбамі — капейкі! — і абыякава кінула кніжачку ў куток са смеццем.

...Бедная ашчадная кніжачка!

**Я. Іваноў**



*— Не скажу, што гэта сапраўдны паляўнічы сабака, але затое зайцы, убачыўшы яго, паміраюць са смеху...*



### Знаёмая хвароба

— Менш ляжы
І менш сядзі,
Варушыся,
Больш хадзі...
Зазубрыў Мікола Драч,
Што казаў яму урач.

І пачаў хадзіць Мікола,
Грудзі ўперад,
Плечы — колам,
Ля закусачнай гуляў,
Ля буфета крывуляў.

І, узрушана-гарэзны,
Трапіў ён у выцвярэзнік.
Атрымаў пятнаццаць сутак,
Агарнуў Міколу смутак.

Як мядзведзь тады зароў ён:
— Падарвеце мне здароўе,
Ціск вялікі і задышка,
Так мне можа быць і крышка.

Менш ляжы
І менш сядзі...
Варушыся,
Больш хадзі,
Гэтак раіў мне ўрач, —
Енчыў той Мікола Драч...

**Рыгор Яўсееў**



### ЗАЧАРАВАНАЕ КОЛА

— Чаму ты напіўся?
— Ды жонка сварыцца.
— А чаму жонка сварыцца?
— Таму, што напіўся.

### КАБ ЦЯБЕ

Задыханы чалавек пытае ў прадаўшчыка латарэйных білетаў:

— Скажыце, калі ласка, калі будзе розыгрыш?

— У наступным тыдні.

— А каб цябе чэрці, а рэвізія ў мяне пачынаецца заўтра.

### САПРАЎДНЫЯ

— Скажыце, гэта ў вас сапраўдныя валасы ці парык?

— Валасы дык сапраўдныя, галава штучная.

*— Цудоўна, Пятрусёк, хатняе заданне зроблена без памылак. А ты ўпэўнены, што тваўму бацьку ніхто не памагаў?*



**...У яго грыва царская, а кіпцюры разбойніцкія.**

**...Галасісты певень, а ў салісты не падыходзіць.**

### ПРЫЧЫНА

— Міхась, чаму ты такі вясёлы? — пытае Юрка.
— Як жа мне не весяліцца? Я хадзіў да дантыста!
— І гэта прычына для весялосці?
— А як жа! У дантыста выхадны.

### ШЧЫРЫ

— Перш чым мы пажэнімся, я павінен табе расказаць аб сваім мінулым, — сказаў Янка.

— Пачакай, ты ж расказваў аб сваім мінулым два тыдні назад, — здзівілася нарачоная.

— Тое, аб чым я хачу табе расказаць, здарылася менавіта за гэтыя тыдні, — адказаў жаніх.

**МІНІВЕРШЫ**

### ВЫХАВАННЕ

— Гняздзечка ўтульнае я, далібог, саўю!.. —
Хвалілася Зязюля Салаўю.

### ЗНАХОДЛІВАСЦЬ

— Я Гаспадыню ганьбіць тут не стану, —
Мурлыкаў Кот, злізаўшы ўсю смятану.

**Станіслаў Кацуба**



*— На гэта месца прызначылі двух працаўнікоў. Адзін будзе працаваць, а другі будзе хадзіць на пасяджэнні.*

### ДОКАЗ

Суддзя пытае злачынца:

— Дык вы сцвярджаеце, што ўсе крадзяжы вы ўчынілі адзін і ў вас не было памочніка?

— Так точна, цяпер жа так цяжка знайсці сумленных людзей!

### ПРЫКМЕТА

— Ты ведаеш, Анэтка, мне пачынае здавацца, што муж мяне не кахае...
— Чаму ты так думаеш?
— Вось ужо другі год ён не з'яўляецца дома.

### ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК

**Баранэса** — авечка.
**Паўлінка** — маленькая пава.
**Куратнік** — разбэшчаны певень.
**Вінаград** — вінны горад.
**Асялок** — малады асёл.
**Прайдзісвет** — сусветны падарожнік.
**Саліст** — засольшчык агуркоў.
**Чапля** — чалавек, які да ўсяго чапляецца.
**Касірша** — жанчына, якая косіць.
**Драмаць** — пісаць драму.

**Павел Шыбут**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Мані Ціханюк, Мані Ясюк, Алі Хіліманюк, Аляксандра Ясюка і Юркі Пашко з Трасцянкі Гайнаўскага павету змяшчаем папулярную песню з рэпертуару А. Дамброўскага

## A TY SIĘ, BRACIE, NIE DENERWUJ

Już Mistrzostwa Świata blisko,
będzie wielka gra,
ludzie mówią, ludzie wierzą,
Polska szansę ma!
Na boiskach nasi chłopcy
bronią się jak lwy,
drugi przerzut, szybka centra,
oni albo my?

A ty się, bracie, nie denerwuj,
tam Lubański gra,
nerwy swoje zwiąż na supeł,
obok Dejnę ma.

A ty się, bracie, nie denerwuj...
damy pokaz gry,
tylko dłonie ściśnij mocno,
sprawdzą nam się sny.

A ty się, bracie, nie denerwuj,
nie żałuj gardła dziś,
wielki finał, Złotą Nike
wygra lepszy z nich!
Piłka nie jest okrągła,
piłka jest kanciasta,
łatwiej stracić gola,
niż go wbić!
Dumny Puchar Rimeta
wszystko dzisiaj przesłania,
szansa na cztery lata,
gdy Nike w słońcu lśni.

A w sektorze numer siedem
siedzi Jacek Gmoch,
z jego Banku Informacji
szczęście wyjmie los.

Obok niego jak dyrygent,
trener Górski siadł.
Grajcie z zębem, ale fair play,
nie poskąpię braw.

A ty się, bracie, nie denerwuj...

Tomaszewski w pięknej akcji
piłkę wybił znów,
włoski trener „mamma mia",
zmienia graczy dwóch.

Już do końca kilka sekund,
sędzia sprawdza czas,
na Okęciu ich spotkamy,
nie żałujcie braw!

A ty się, bracie, nie denerwuj,






### МАЙСТЭРСТВА АБЫСЦІ ЗАКОН

Каля 220 мільёнаў долараў у год — амаль дзесяць працэнтаў сваіх барышоў — трацілі на рэкламу цыгарэт буйнейшыя амерыканскія тытунёвыя кампаніі да ўстанаўлення ў сілу ў ноч з 1 на 2 студзеня 1971 года федэральнага закону, які забараняе рэкламу цыгарэт па радыё і тэлебачанні. Паводле даных амерыканскіх газет, за апошнія паўгадзіны перад гэтай забаронай кампанія „Філіп Морыс" умудрылася выдаткаваць на „развітальную" тэлевізійную рэкламу сваёй прадукцыі 1,25 мільёна долараў, пераконваючы амерыканцаў у тым, што „Вірджынія слізм" — „самыя лепшыя ў свеце цыгарэты для сапраўдных жанчын", а „сапраўдны мужчына не можа абысціся без цыгарэт „Марлбара"...

### ПІТОН-МЕЛАМАН

Селярына Вільянуэва, жыхарка манільскага раёна Тонда, з'яўляючыся заўзятай прыхільніцай стэрэафанічнай музыкі, усю дамашнюю работу любіла рабіць пад акампанемент прайгравальніка. Якое ж было яе здзіўленне, калі, прыйшоўшы, аднойчы змяніць пласцінкі, яна выявіла яшчэ аднаго слухача. Гэта быў пітон, які ляжаў, згарнуўшыся ў кольцы, побач з дынамікамі. Напэўна, вырашыўшы, што заканчэнне музыкі было звязана са з'яўленнем гаспадыні дома, пітон зашыпеў і рушыў на яе. Справіца з трохметровым меламанам змаглі толькі два дзесяткі суседзяў, якія збегліся на крыкі жанчыны. Цяпер нават самыя заўзятыя прыхільнікі музыкі ў Тонда з апасеннем уключаюць прайгравальнікі. Хто ведае, хто наступны прыдзе паслухаць музыку?




**Крылы чалавеку падразаюць словам.**